# РАДНІМОВА

№ 3(9) 1990 · САКАВІК · ГАЗЭТА СУПОЛКІ ІМЯ М.БАГДАНОВІЧА Ў ГАРОДНІ


*НАМ НЯСТРАШНЫ СІБІРСКІ БОЛЬШ ХОЛАД, НАМ НЯ СТРАШНЫ МАСКАЛЬ АБО ЛЯХ, ЧУЖЫ СЕРП, НЕ ПАТРЭБНЫ, НІ МОЛАТ — МЫ РАЗГОРНЕМ КРЫВІЦКІ НАШ СЬЦЯГ!* ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

## ЮРАСЬ ПАЦЮПА
## САНЭТ МАЙГО ШЧАСЬЛІВАГА САВЕЦКАГА ДЗЯЦІНСТВА

Палае сон пра дальнія краіны,
і пяцікутнае сьвятло зьвязды
на подушку ліецца, паязды
злучаюць мары у саюз адзіны;

вось соцрэалістычная карціна:
цьвітуць, нібы працоўны май, сады,
на палатне сьмяецца праз гады
ў пракураныя вусы дзед Скарына.

Ах, мне і сорамна і страшна жыць,
бо я ня ўмею партыю любіць,
бо я нічога іншага ня ведаў;

а на гумовай трактарнай хадзе
праз стэпы атамная лодка едзе —
ад нас гасьцінцы ў камунізм вязе.

## ДА ГАДАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Нас палілі ў Заляшанах і ў Хатынях, стралялі ў Курапатах, зьнішчалі ў фашысцкіх ды бальшавіцкіх лягерах, мільёны беларусаў загінулі, змагаючыся пад чужымі сьцягамі, абараняючы інтарэсы іншых.

Для кожнага народа незалежнасьць — гэта нармальны стан існаваньня.

Народ, глынуўшы чыстага паветра свабоды, ужо ніколі не адмовіцца ад яе.

Ды нягледзячы на патугі асымілятараў, беларусы ва ўсім сьвеце сьвяткуюць сёлета 72-я ўгодкі утварэньня Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сусьветная вайна спустошыла край. Магутныя дзяржавы ня лічылі беларускі народ рэальнаю сілаю, якая магла б супроць стаяць бальшавікам.

Была зроблена стаўка на палякаў, якія выйшлі з-пад гнёту Расеў і аж выраблялiся са скуры, каб адрадзіць Польшчу ад мора да мора.

У плянах бальшавікоў Беларусі ня было, ім яна, як і цару, уяўлялася толькі северо-западным краем.

Бяз ніякае дапамогі, разлічваючы толькі на свае сілы ва ўмовах нямецкае акупацыі Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчае незалежнасьць Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Безумоўна, беларускія дзеячы разумелі ўсю складанасьць становішча, напэўна ведалі, што амаль няма шансаў на посьпех, але не зрабіць гэтага яны не маглі.

Сядзець у той час склаўшы рукі ды назіраць, як суседзі дзеляць Бацькаўшчыну, было б злачынствам. Цяпер можна шукаць у іх дзеяньнях памылкі, але нельга лічыць, што утварэньне БНР было бясэнсоўным. Бальшавікі былі змушаны стварыць фіктыўную БССР. Смаленшчына абрасеілася, Віленшчына апалячылася, а Беласточчына, на якой расейскі камунізм праіснаваў два гады, здолела захаваць нацыянальную інтэлігенцыю.

Мэты, якія ставілі перад сабою дзеячы БНР, зьяўляюцца праграмай нашага адраджэньня.

Зьміцер Кісель

## БЕЛАРУСКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ ДА БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ!

Беларускае дэмакратычнае аб"ядананьне на сваім першым заснавальным канрэсе 10 лютага 1990 году выйшла з ініцыятывай скліканьня агульнабеларускага палітычнага кангрэсу ў чэрвені 1991 году ў Белавежы. Гэткі кангрэс на думку Беларускага дэмакратычнага аб"яднаньня вельмі важны, вельмі патрэбны. Хутка мяняецца сітуацыя ў Еўропе, таксама і на нашай Бацькаўшчыне. Каб зноў ня стаць перад такімі праблемамі, што нам як народу створацца магчымасьці эдэцыдаваць аб сваім лёсе, а мы зноў будзем таўчыся аб розныя палітычныя канцэпцыі, змагацца супраць сябе аб розныя палітычныя плыні. Вельмі добра было б некаторыя прынцыповыя рэчы вырашыць ужо зараз. Вось і ўзьнікла ідэя скліканьня кангрэсу ўсіх палітычных сіл, якія дзейнічаюць у беларускім асяродзьдзі. На Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Наша прапанова такая: запрашаем усіх да ўдзелу ў падрыхтоўцы кангрэсу, усіх, хто хоча дэцыдаваць аб лёсе беларускага народу, хто хоча змагацца за гэты лёс.

Тады запрашаем усіх з Савецкае Беларусі, усіх незалежных палітычных арганізацыяў, якія, як думаем, падрыхтуюць свае канцэпцыі аб лёсе і будучыні беларускага народу. Запрашаем таксама ўсіх беларусаў на эміграцыі.

Думаю, што Белавежа, кусочак беларускае зямлі, якая сёньня знаходзіцца на тэрыторыі Польшчы, адпавядае і сімвалічна, тут ёсьць цудоўныя ўмовы для правядзеньня кангрэсу, імі трэба карыстацца.

Кангрэс павінен прайсьці пад лёзунгам: "Беларусь, яе пэрспектывы як народу, як грамадзтва, як нацыі ў вольным сьвеце". Тады думаю, што перад усім мы павінны зьвярнуцца да апрацоўкі палітычнае канцэпцыі ролі нашага народу ў вольным сьвеце. У эўрапейскім сьвеце. Кожны з прадстаўнікоў палітычнае сілы павінен прынесьці на кангрэс сваю канцэпцыю, усе канцэпцыі павінны быць разгледжаны, прыняты пастановы найбольш карысныя, найбольш важныя. Час ідзе вельмі хутка, дык мы павінны вельмі хутка працаваць і думаць. Абдумайце нашы прапановы.

Зварот прадыктаваў на дыктафон
Антон Міраповіч 11 лютага 1990г.

БНФ·ІНТЭРВЮ З САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ 12·02·1990·БЕЛАСТОК

Пытаньне:
- Утварылася Беларускае Дэмакратычнае Аб"яднаньне і цябе абралі старшынёю Галоўнае Рады. Якая будучыня партыі і беларускага адраджэньня на Беласточчыне?

Сакрат:
- Будучыня партыі зьвязана з будучыняй беларускае нацыянальнае меншасьці, яе галоўны сэнс у абароне існаваньня гэтае меншасьці. У першую чаргу нам патрэбна заняцца забесьпячэньнем арганізацыйнае ды ідэалягічнае дзейнасьці. Пра грошы думаем на роўні з тым, як і аб стварэньні сваіх цэнтраў і магчымасьці для ўласнага друку.

Нацыя павінна мець тры элементы актыўнасьці: культура, гаспадарка, палітыка. І ўсім гэтым тром элементам, якія абумоўліваюць і вызначаюць лёс народа, патрэбна надаць рух.

Важна тое, што сваю дзейнасьць мы ня хочам накідаць зьверху, а імкнёмся, каб патрэба дзейнасьці высьпявала ў нізох, непасрэдна ў вёсках, мястэчках. Бо калі толькі кіраўніцтва будзе найразумнейшае, то гэта ня дасьць нам добрых перспэктываў.

Пытаньне:
- У беларускім народнафронтаўскім друку няма праблематычных артыкулаў - адна голая інфармацыя. А якая думаецца газэта ў вас?

Сакрат:
- Якасьць газэты залежыць ад аўтараў: слабыя аўтары - слабая газэта. Думаем утрымаць "Ніву", пасьля "Сустрэчы", пачалі выдаваць свой штоквартальны часопіс на дваццаць старонак друку. Шукаем маладыя таленты.

У газэце патрэбны аналіз, рэфлексія, рух думкі, ацэнка фактаў. Бо чалавек павінен ведаць ня толькі што адбылося, але й чаму так адбылося. Камэнтары могуць быць і памылковымі, але важнае імкненьне да думкі, палеміка.

Існаваньне беларускае нацыянальнае меншасьці ў Польшчы залежыць ад таго, наколькі Беларуская рэспубліка станецца беларускаю, бо апора кожнае меншасьці за мяжою - нацыянальная дзяржава.

Пытаньне:
- У Гародні 500 сяброў БНФ. А колькі сяброў будзе налічваць ваша партыя?

Сакрат:
- Ня прыдаем вагі лічбам. Галоўнае аналіз гістарычнага моманту. Калі гэты аналіз трапны, то будзе, як у Чэхаславаччыне, дзе іх народны фронт названы "Народным Форумам" налічваў дакладна 1100 асобаў, і столькі ж іх было на першым мітынгу, а праз тыдзень прыйшло 400 000. Бо людзі раптам зразумелі, што яны маюць рацыю, што трэба за імі ісьці. У гэтым ёсьць уся сіла думкі. Я асабіста зьдзіўлены, што вас 500, думаў вас значна меней.

# РАЗМОВА З ДЭПУТАТАМ

"Высота" № 9 ад 2.03.90г.

-Поэтому придите, люди, к избирательным урнам, оплодотворите их своим святым и трезвым духом, дабы не родился у нас опять блаженный уродец. И не убоимся ради этого сделать, если понадобится, и несколько заходов.

Доброго вам настроения!

В. Середа

А цяпер сур"ёзна. Наш карэспандэнт сустрэўся з народным дэпутатам Гарадзенскага гарадскога Савета Юрасём Мацко.

Пытаньне:
- Скажыце, якая была Вашая тактыка передвыбарчае кампаніі?

Юрась:
-Тактыка была такая, каб набраць найбольшую колькасьць галасоў. Я хадзіў па свайму участку, сустракаўся зь людзьмі, цікавіўся іх патрэбамі, знаёміў іх з праграмай Беларускага народнага фронту і дэмакратычнага блоку "Саветы-90". Мяне даволі добра разумелі, і як бачыце, я перамог у першым туры.

Пытаньне:
- Вашым канкурэнтам быў прафесійны фінансіст, але перамаглі Вы. Ці значыць гэта, што нашыя выбаршчыкі ня любяць грошай?

Юрась:
- Думаю, што яны ня любяць, што гэтых грошай даволі мала, а і за тыя няма чаго купіць, цяжка сказаць, ці вінаватыя ў гэтым фінансісты, але вынікі выбараў адлюстроўваюць агульную думку народа пра нашую фінансавую сістэму.

Пытаньне:
- Ці былі якія непаразуменні пад час перадвыбарчае кампаніі?

Юрась:
- Справа ў тым, што сябры ў БНФ вылучаліся як бы ў два этапы, спачатку ў сьпісе кандыдатаў не хапала ажно адзінаццаці прозьвішчаў, у тым ліку майго. І я атрымаў паведамлене, што зарэгістраваны дзесьці на чатыры дні пазьней. Гэта было зьвязана з падзеямі 3 лютага, калі жыхары Гародні падтрымалі Беларускі народны фронт, і гэта паўплывала на працу выбарчых камісій і трактоўку імі закона аб выбарах. Усё, што раней адхілялася як незаконнае, цяпер стала законным.

Пытаньне:
- БНФ пайшоў на супрацоўніцтва з кааператарамі, але адносіны выбаршчыкаў да кааперацыі розныя. І была пэўная рызыка...

- Хто не рызыкуе, той не абіраецца народным дэпутатам. БНФ выступае за роўнасьць усіх формаў маёмасьці перад законам.

Апрача таго на канферэнцыі БНФ у Гародні 17 сьнежня была прынята рэзалюцыя аб супрацоўніцтве з грамадскімі арганізацыямі, нацыянальнымі таварыствамі, дзейнасьць якіх не супярэчыць мэтам БНФ. З нашага дэмакратычнага блока "Саветы-90" кожнае з таварыстваў пакуль што мае пэўныя выгады.

Пытаньне:
-Вашыя пляны на будучае. Чым Вы хацелі б займацца як народны дэпутат?

Юрась:
-Перш за ўсё трэба ўзяцца за сацыяльную справядлівасьць. Цяпер, калі ў нас жыцьцёвы крызіс і недахоп самых неабходных тавараў, людзі вельмі абураюцца тым, што ў жыцьці партыі, якая да нядаўняга часу мела кіруючую ролю, нічога не зьмянілася. Партыя па-ранейшаму ў Гародні займае шмат гістарычных будынкаў, мяне як архітэктара вельмі гэта непакоіць, таму што цэнтр горада нішчыцца. І як мы і пісалі ў сваіх праграмах, Новы Замак трэба вызваліць і коштам партыйнага бюджэту адрамантаваць тое, што зьнішчана эксплуатацыяй.

Пытаньне:
- Якія Вашы адносіны да прамовы Зянона Пазьняка ў Менску 25 лютага? Ці КПСС сапраўды "злачынная арганізацыя"?

Юрась:
- Зянон Пазьняк па сваёй выбарчай акрузе ў Менску ў першым туры пры шматлікіх канкурэнтах набраў 72 працэнты галасоў. Народ свае адносіны да яго прамовы выказаў, і я згодны з ацэнкай дзейнасьці партыі старшынёй БНФ, якога падтрымалі выбаршчыкі.

Пытаньне:
- Што Вы хацелі б сказаць сваім выбаршчыкам?

Юрась:
- Падзякаваць ім, што яны паверылі ў мяне. А я буду рабіць усё, каб новы гарадскі Савет павярнуўся да патрэб людзей.

# З нашай шуфляды

36-гадовы ксёндз Вінцэсь Гадлеўскі з пачатку 1925 году вядзе набажэнства на беларускай мове, а часткова на польскай. За нейкія тры месяцы набывае шмат прыхільнікаў сярод католікаў-беларусаў, а яго казаньні становяцца ўсё больш і больш папулярнымі. Колькасьць аматараў польскае касьцельнае мовы катастрафічна падае. Польскія патрыёты з асаднікаў, паліцэйскіх ды местачковай дэнацыяналізаванае шляхты панічна заклікаюць улады да рашучых дзеяньняў супраць ксяндза.

Занепакоеныя"ўціскамі" польскае мовы на крэсах, біскуп віленскі лістом ад 27 красавіка 1925 году прызначае спэцыяльную камісыю дзеля разбору справы прыхажанаў польскіх і беларускіх у касьцёле Жодзішскім з трох польскіх ксяндзоў: дзякана Сьвірскага Валяр"яна Голяка, пробаршча Кабыльніцкага Казіміра Паўловіча, пробошча Данкашэўскага Станіслава Кудрэўскага.

26 красавіка таго ж году мелася адбыцца галасаваньне парафіян у прысутнасьці камісыі Біскупскае курыі, каб канчаткова вырашыць мову вядзеньня набажанства ў Жодзішскім касьцёле. Але, што галасаваньне будзе не ў карысьць польскае мовы, усе разумелі.

Дзеля кантролю над падзеямі ў час галасаваньня створаны паліцэйска-рэлігійны саюз: камэндант Жодзішскага пастарунку Тукендорф і ксёндз Голяк.

Супрацоўніку палітычнае камісыі Рагоўскаму даручаецца сьлежка за касьцёлам. Скрупулёзна распрацоўваецца "плян галасаваньня".

Час набажэнства. Касьцёл біткам набіты вернікамі. Шныраюць шпікі, прыслухоўваюцца да размоваў. Недзе ў засадзе непадалёку ад касьцёла сумуюць паліцыянты.

Гадлеўскі адслужыў імшу, просіць па-беларуску вернікаў не разыходзіцца па хатах, а згуртавацца на цьвінтары: беларусам справа ад званіцы, а палякам - зьлева. Выйшла камісыя.

Жменька палякаў выглядала ўбога перад натоўпам беларусаў. Ксёндз Голяк, каб зьмяшаць дзьве групы людзей, просіць беларусаў адступіць да касьцёльнага гмаху, а палякаў - да брамы цьвінтара. Сьледчаму ж пасьля тлумачыў:"Палякі ня ведаюць беларускае мовы, таму стаялі ў адным натоўпе зь беларусамі". Асаднікі ды пераапранутыя ў цывільнае паліцыянты спрабуюць разьдзяліць натоўп на дзьве прыкладна роўныя часткі, каб хоць такім чынам павялічыць колькасьць прыхільнікаў касьцельнае польскае мовы.

Калі ж апэрацыя па разьдзелу ня ўдалася, засталося адно - разагнаць людзей. Чуюцца выкрыкі з польскага боку:"Сярод беларусаў ёсьць людзі зь іншых парафій ды нават праваслаўныя!"

Голяк прымае быццам кампрамíснае рашэньне: на паседжаньне камісыі ў плябаніі ад беларусаў ды палякаў вылучыць па аднаму дэлегату. І выклікае, зразумела, незадавальненьне з боку беларусаў. Чуваць пагрозы. Людзі хвалююцца, патрабуюць справядлівасьці. Але члены камісыі бы аглохлі, сышлі з касьцельнага ганку ды накіраваліся ў бок плебаніі.

Гадлеўскі спрабуе супакоіць люд:"Браточкі-беларусы, супакойцеся!" Да пастарунку з крыкам:"Б"юць палякаў!"- пабеглі настаўнікі Шушкевіч ды Ярэміч. Але на пастарунку нікога ня было. Паліцыянты зьявіліся на цьвінтары адразу, як толькі камісыя пайшла ў плябанію, па сыгналу шпіка. Ручны кулямёт зьявіўся на ганку. Прыкладамі выганялі паліцыянты зь цьвінтара беларусаў. Тукендорф быў задаволены вынікам апэрацыі і праз гадзіну пасьля апісаных падзей пытаўся ў беларуса Людвіка Рэкеця:"А табе не дасталося па лобе?"

Ксёндза Гадлеўскага як зачыншчыка непарадкаў бяруць пад стражу, але праз некалькі месяцаў выпускаюць з-за адсутнасьці віны і дзякуючы актыўным дзеяньням паслоў беларускага клюбу.

Справа разглядаецца ў польскім сэнаце. Для вядзеньня дазнаньня ў Жодзішках прызначаны намесьнік камэнданта Сьвянцянскага павету Уладзімір Вэц. Ён зьняў допыт у 9 беларусаў ды 18 палякаў. Ды вынікі допытаў былі ня вельмі суцяшальнымі для ўлады, бо ў справаздачы міністру ўнутраных спраў Вэц піша: "Справа мовы набажэнства павінна быць вырашана, бо выклікае шэраг скаргаў з боку люднасьці польскае, гэта ж натуральна, калі браць пад увагу, што і пры расейскім часе і пры ўстанаўленьні ўлады польскае казаньні вяліся па-польску. Ксёндз Гадлеўскі самавольна прамаўляе па-беларуску, а па-польску ў канцы набажэнства, калі людзі пачынаюць разыходзіцца. Характэрна для справы тое, што да ўвядзеньня казаньня па-беларуску ў Жодзішках было 15 працэнтаў беларусаў, а пасьля правядзеньня ксёндзам Гадлеўскім спэцыяльнае агітацыі - іх стала 60 працэнтаў. Тлумачу гэта падбухторваньнем нацыяналістычнай агітацыяй людзей зь нізкім інтэлектам супроць народу і гаспадарства польскага. Люднасьць польская, якая інтэлектуальна болей "вырабёна", занепакоена дзейнасьцю пробаршча і горка наракае з прычыны вяртаньня ксёндза да Жодзішак, бо гэта шкодзіць аўтарытэту Панства Польскага."

У наш час такія праблемы не паўстаюць. Можа з-за бурнае дзейнасьці місыянераў польскіх, якія апошнім часам часта прыязджаюць на крэсы, пакуль няма ў нашым краі сэмінарыі, якая рыхтавала б сьвятароў беларускіх...

Васіль Бязьмен

Архіўныя дакументы перадаў нам Міхась Шаховіч зь Беластоку.

---

Едрусь Мазько меў магчымасьць спытаць у архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы пра разьвіцьцё праваслаўя на Беласточчыне, ведаючы, што беларуская сьвядомасьць там трымаецца на праваслаўі.

У епархіі каля 150 тысяч вернікаў. На Беласточчыне будуецца 7 новых цэркваў за кошт дабрачыннасьці прыхаджан, галоўная праца вядзецца па рэстаўрацыі Супрасьля, гістарычнага помніка, заснаванага гэтманам Вялікага княства Літоўскага Аляксандрам Хадкевічам. Супрасьль зьяўляецца мейсцам экуманічных сустрэч моладзі, там займаецца 7 маладых манахаў.

Архіепіскап Сава пажадаў праваслаўным нашае вобласьці і беларускага краю высокага разьвіцьця духоўнасьці, самасьвядомасьці ў змаганьні за веру і беларускую мову ў царкве.

---

Божа!
Пад крыжам адзіным народ наш злучы.
Дай прычасьціцца крывёю Хрыстовай Крыві.
Перакрыжуй нашых душаў шляхі баравыя,
Роднаю мовай малітву шаптаць навучы.

Данута Бічэль

